**Працягваецца падпіска на «Газету Слонімскую» на жнівень — снежань 1998 года**


# Газета Слонімская

*Газета заснавана ў 1938 годзе. Выходзіць з 1997 года.*

№ 27 (56). Слонім. 2 ліпеня — 8 ліпеня 1998 г. Незалежны грамадска-палітычны штотыднёвік. Кошт свабодны


СВЯТЫ

## Гуляць дык гуляць

**3 ліпеня, у Дзень незалежнасці Рэспублікі Беларусь, у Мінску адбудзецца парад, дзе будзе задзей-нічана больш за чатыры тысячы чалавек і 295 адзінак тэхнікі — 37 гусенічнай і 258 колавай.**

Па паведамленню прэс-службы Міністэрства абароны рэспублікі, на парадзе будуць прадстаўлены ўсе віды і роды войск беларускай арміі. Напярэдадні парада, двойчы, позна вечарам на плошчы Незалежнасці беларускай сталіцы пройдуць генеральныя рэпетыцыі.

Тым часам мы вырашылі даведацца, якія мерапрыемствы на гэтае свята запланаваны ў Слоніме. Вось, што пачуў карэспандэнт "ГС".

Анатоль Зімніцкі, загадчык аддзела райвыканкама:

– У нас ёсць свой друкаваны орган, заснавальнікам якога мы з'яўляемся. Такую інфармацыю я не ўпаўнаважаны даваць, званіце да старшыні райвыканкама...

Аляксандр Тарсуноў, намеснік старшыні райвыканкама:

– У нас ёсць свая газета і мы туды даем інфармацыю!

Але высвятляецца, што пры ўладзе ёсць людзі, якія разумеюць, што чытачы "ГС" маюць такое ж права, як і чытачы дзяржаўнай газеты, на атрыманне інфармацыі. Напрыклад, намеснік старшыні гарвыканкама Войцех Угрыновіч паведаміў, што 2 ліпеня ў 16.00 у РДК пачнецца ўрачысты сход і святочны канцэрт з нагоды Дня незалежнасці. А 3 ліпеня ў 11 гадзін у Слоніме адбудзецца ўскладанне вянкоў і кветак да помніка загінуўшым воінам. А старшыня райвыканкама Станіслаў Здановіч патлумачыў, што раней запланаванае на гэтыя выхадныя свята працы перанесена на 12 ліпеня.

**Сяргей ЁРШ**

## Ветэранаў падтрымаюць

**3 нагоды Дня незалежнасці прэзідэнт сваім указам пастанавіў матэрыяльна падтрымаць у памеры 500 тысяч рублёў удзельнікаў і інвалідаў вайны.**

Па 250 тысяч рублёў атрымаюць асобы, якія ўзнагароджаны ордэнамі і медалямі за працу і ваенную службу ў тыле ў гады вайны; грамадзяне, узнагароджаныя медалём "За абарону Ленінграда"; былыя вязні фашысцкіх канцлагераў, турмаў; інваліды з дзяцінства з прычыны ранення, кантузіі і калецтва, якія звязаны з баявымі дзеяннямі ў перыяд вайны, а таксама пенсіянеры, якія маюць 100 і больш гадоў.

Гэтыя грошы мясцовыя ўлады абавязаны выплаціць да 25 ліпеня 1998 года.

**Наталля ФУРСАВА**

НАВІНЫ

## Новы цягнік

З 1 ліпеня адмяняецца пасажырскі цягнік Гродна-Магілёў. Замест яго будзе курсіраваць цягнік Гродна-Мінск. Са Слоніма на Мінск ён адпраўляецца ў 4-59, а на Гродна – у 1-30.

**Н.Ф.**

## Поздравляем!

Подполковник милиции Виктор Андреевский, начальник отделения ГАИ Слонимского ГРОВД, награжден Почетной грамотой УВД.

Капитану милиции Ивану Ширковцу, заместителю начальника Слонимского ГРОВД, присвоено звание майор милиции.

## Новы від укладу

**З 29 чэрвеня па 10 ліпеня бягучага года ААБ "Беларусбанк" прымае грашовыя сродкі на новы від тэрміновага ўкладу "Да Дня Рэспублікі" пад 45%.**

Мінімальная сума ўкладу складае 300 тысяч рублёў, а тэрмін яго захоўвання – шэсць месяцаў.

## Афіцэры атрымаюць узнагароды

У чацвер, 2 ліпеня, афіцэрам Слонімскай механізаванай брыгады ва ўрачыстай абстаноўцы будуць уручаны юбілейныя медалі "80 год Узброеных Сіл Рэспублікі Беларусь".

**В.Ч.**

ЗУСІМ САКРЭТНА

# МЁРТВЫ АБ'ЕКТ

Калі ехаць на Зэльву, адразу за Чамярамі пачынаецца лес. Праехаўшы па шасэ яшчэ метраў трыста, з правага боку ледзьве прыкметна дарога. Цяпер яна зарасла травою і губляецца ў лясным гушчары, дзе некалі быў сакрэтны ваенны аб'ект. Пра яго амаль ніхто не ведаў, акрамя жыхароў навакольных вёсак. Гэтае лясное месца вяскоўцы называюць Падоськавічы. Ваенны аб'ект быў абгароджаны калючым дротам. Туды нікога і ніколі не пускалі.

Хаця былі смельчакі, якія прабіраліся праз дрот на закрытую тэрыторыю, каб назбіраць ягад ці грыбоў. Толькі доўга там ім блукаць не давалі, бо ўжо праз хвілін пяць да "парушальнікаў" ваеннага аб'екта беглі салдаты з аўтаматамі і сабакамі. Рознае здаралася: адных затрымлівалі, другія ўцякалі. Праўда, ніхто ніколі так і не змог даведацца, што ахоўвалі салдаты. Людзі проста гаварылі, што там стаяць ракеты з ядзернымі боегалоўкамі. Па іншых звестках, гэта быў запасны аб'ект сувязі.

**(Працяг на 3 стр.)**

# ЛЯСНЫЯ ПУСТЭЛЬНІКІ

**Вось ужо амаль пяць гадоў у лесе, асобна ад людзей жывуць слонімскія пустэльнікі — манах і манашка.**

*Брат Вікенцій і сястра Вера (фота 1994г.)*

Гэтая боская пара знайшла сабе прытулак у лясным гушчары, паблізу дзіцячага лагера "Іса". Там у 1993 годзе яны пабудавалі сабе зямлянку, абзавяліся сціплай гаспадаркай і паціху, непрыкметна пачалі бавіць час. Месца сваёй стаянкі (дзялка плошчаю прыкладна 100 кв. метраў) абгарадзілі плеценаю агароджаю.

Упершыню мы патрапілі да пустэльнікаў роўна чатыры гады назад. Менавіта тады з імі і пазнаёміліся.

Віктар Сяргеевіч Рамашкін, а па Богу – Вікенцій, як і сястра Вера, – у мінулым выхаванцы дзіцячага дома. Ён – былы марак гандлёвага флоту, хадзіў у замежныя плаванні, меў сям'ю ў Астрахані, трохпакаёвую кватэру. Аднойчы на танкеры здарылася аварыя, падчас якой ён моцна пакалечыўся. Калі выкарабкаўся з бальнічнага ложка, даў зарок да канца жыцця прысвяціць сябе Богу.

*(Працяг на 2 стр.)*

ЗДАРЭННІ

## Трагічны выпадак

**Днямі ў лесе каля вёскі Жыровічы быў выяўлены вісельнік.**

На яго выпадкова натрапіла жанчына, якая пайшла ў лес па грыбы. Высветлілася, што мужчына І. быў жыхаром Жыровіч і знік без вестак месяц назад.

## Гарым

**Раніцай, 29 чэрвеня, згарэў хлеў жыхара вёскі Чамяры Мікалая М.**

Стала вядома, што прычынай пажару была маланка, якая патрапіла ў гаспадарчую пабудову. На шчасце, ад агню ніхто не пацярпеў.

**Сяргей ЁРШ**

## Сидим

**По данным Верховного суда Беларуси, сегодня в республике в местах лишения свободы находятся 60 тысяч граждан.**

Таким образом, на 100 тысяч жителей страны приходится 400 заключенных.

**БелаПАН**

## Абгон — манеўр сур'ёзны

На мінулым тыдні на дарозе Слонім-Высокае, адбылася аварыя, падчас якой аўтамашына "Аўдзі-100" пры абгоне матацыкла з'ехала ў кувет і перакулілася.

**Валянцін ЧУРЫЛА**

ЦЫТАТА НУМАРА

## Нарэшце...

"Нарадзілася" распараджэнне старшыні гарвыканкама А.Лакцюшына. Кіраўнікам камвольна-прадзільнай фабрыкі В.Галічу, вінзавода Ж.Сікорскаму, кардонна-паперовага завода Л.Шкляру, фабрыкі гасцінічнай мэблі П.Котаву ўказана на недысцыплінаванасць. Іх запрасілі на пасяджэнне гарвыканкама, а яны не з'явіліся."

**("Слонімскі веснік", ад 30 чэрвеня 1998г.)**

НАВІНЫ

## На бензін падымуцца цэны

**Магчыма, ужо з 1-га ліпеня ўзрастуць цэны на бензін і іншыя нафтапрадукты на 10%.**

Такое рашэнне плануе прыняць беларускі ўрад па прычыне таго, што значна скараціліся пастаўкі нафты ў Беларусь, за якую трэба плаціць валютай, а яе ў казне істотна не хапае.

## Курс доллара снова вырос

**С начала месяца биржевой курс доллара вырос на 4,4%, «черный» наличный — на 4,9%, банковский наличный — на 9,8%, внебиржевой безналичный — не изменился.**

На «черном» рынке в Минске котировка американской валюты повысилась на 2,2% (с 57.000 – 58.000 до 58.000 – 59.500 рублей); при этом в середине недели курс продажи достигал отметки 60.000 рублей, а в понедельник, 29 июня, вырос до 61.000 рублей.

**БелаПАН**

## Вяртайся, Віктар, з перамогай

**Днямі выпускнік СШ №1, залаты медаліст Віктар Мармыш адправіўся ў сталіцу Ісландыі — Рэйк'явік, дзе прыме ўдзел у міжнароднай алімпіядзе па фізіцы і матэматыцы.**

Такое права ён атрымаў пасля таго, як выйграў рэспубліканскую алімпіяду.

**Валянцін ЧУРЫЛА**



ФУТБОЛ высшая лига

# БУДЕМ ЖДАТЬ ВТОРОГО КРУГА?

**Коммунальник (Слоним) — Гомель — 0:3**

**Слоним. 25 июня. Стадион "Юность". 3200 зрителей.**
**Судья Владимир Суховаров (нк, Орша).**
**Коммунальник: Киркиж, Цыбулько, Шупилов, А.Дегиль (к), Дым, Погоцкий, Киреня, Савицкий, Савонь, Колядчик, Татарашвили (В.Дегиль, 68).**
**Голы: Борель (10), Терихов (14), Юсипец (83).**
**Предупреждение — Погоцкий ("Коммунальник")**
**Конкурс "ГС" и ООО "Телкон": лучший игрок — нет, бомбардир — Савонь (2), лучший новичок — нет.**



Чуда не произошло. "Коммунальник" вновь проиграл... Но поражение поражению — рознь. На этот раз болельщики увидели борьбу наших футболистов с первой и до последней минуты. А еще — невезение или неумение в завершении атак.

По словам главного тренера "Коммунальника" Якова Шапиро, наши футболисты сделали все возможное, чтобы сыграть на хороший результат, а именно — на победу. Однако нам не повезло. Возможно, слонимчане не справились с волнением, с тем психологическим грузом, который давил на футболистов. А вот гости играли раскованно и уверенно, умело используя ошибки обороны "Коммунальника".

"Я не имею претензий к своим игрокам. В раздевалке я им сказал спасибо за игру... А теперь будем работать дальше", — признался Шапиро.

Ну, а слонимским болельщикам остается ждать второго круга чемпионата, когда в "Коммунальник" запланировано вливание "свежей крови", и надеяться на лучшее. Правда, еще в первом круге у нашей команды есть шансы заявить о себе.

**Сергей ЁРШ**
**Николай СУПРУН (фото)**





## ТУРНИРНАЯ ТАБЛИЦА

### ПОСЛЕ 13-ГО ТУРА

| | | И | В | Н | П | М | О |
|---|---|---|---|---|---|---|---|
| 1. | Днепр-Трансмаш (Могилев) | 12 | 9 | 1 | 2 | 29-6 | 28 |
| 2. | Торпедо (Минск) | 13 | 7 | 4 | 2 | 22-7 | 25 |
| 3. | БАТЭ (Борисов) | 13 | 7 | 3 | 3 | 27-16 | 24 |
| 4. | Гомель | 13 | 7 | 3 | 3 | 17-11 | 24 |
| 5. | Славия (Мозырь) | 13 | 7 | 2 | 4 | 18-17 | 23 |
| 6. | Локомотив-96 (Витебск) | 13 | 6 | 4 | 3 | 15-9 | 22 |
| 7. | Торпедо-Кадино (Могилев) | 13 | 6 | 4 | 3 | 19-15 | 22 |
| 8. | Белшина (Бобруйск) | 12 | 6 | 3 | 3 | 19-6 | 21 |
| 9. | Динамо (Минск) | 12 | 6 | 1 | 5 | 16-12 | 19 |
| 10. | Неман (Гродно) | 13 | 5 | 3 | 5 | 11-17 | 18 |
| 11. | Динамо-93 (Минск) | 12 | 4 | 5 | 3 | 18-14 | 17 |
| 12. | Динамо (Брест) | 13 | 4 | 1 | 8 | 12-22 | 13 |
| 13. | Шахтер (Солигорск) | 13 | 3 | 4 | 6 | 13-24 | 13 |
| 14. | Нафтан-Девон (Новополоцк) | 13 | 2 | 2 | 9 | 11-24 | 8 |
| 15. | Молодечно | 13 | 1 | 1 | 11 | 9-28 | 4 |
| 16. | Коммунальник (Слоним) | 13 | 0 | 3 | 10 | 5-33 | 3 |

СЕЗОН-98 СЕЗОН-98 СЕЗОН-98 СЕЗОН-98 СЕЗОН-98

## РЕЗУЛЬТАТЫ ОСТАЛЬНЫХ МАТЧЕЙ ТУРА:

| | |
|---|---|
| **Локомотив-96 — Торпедо-Кадино** | **— 1:1** |
| **Днепр-Трансмаш — Торпедо** | **— 1:0** |
| **Белшина — Динамо Бр.** | **— 2:0** |
| **Шахтер — БАТЭ** | **— 3:5** |
| **Молодечно — Динамо-93** | **— 1:1** |
| **Динамо Мн. — Неман** | **— 1:2** |
| **Нафтан-Девон — Славия** | **— 0:1** |

# Кубок остался в Альбертине

**На протяжении месяца на стадионе в Альбертине проходил турнир по футболу на кубок Слонима.**

В соревнованиях участвовали команды предприятий города, а также детских юношеских школ №1 и картонно-бумажного завода "Альбертин". В финал вышли команды КБЗ "Альбертин" и прошлогодний обладатель кубка – ДЮСШ "Альбертин". Если игроки завода дошли до финала без особых проблем, то ребята ДЮСШ буквально вырвали право играть в финале у сильной команды камвольно-прядильной фабрики.

В финальной игре победу одержала команда КБЗ "Альбертин" со счетом 6:1. Геннадий Вилькицкий, заведующий отдела по спорту и туризму горисполкома, наградил победителей переходящим кубком и дипломом первой степени, а также вручил денежную премию. Были определены и лучшие игроки турнира: вратарь – Юрий Король (КБЗ "Альбертин"), защитник – Александр Адасько (КБЗ "Альбертин"), полузащитник – Олег Дейко (КПФ), нападающий – Дмитрий Комар (ДЮСШ КБЗ "Альбертин"). Самый красивый гол забил Анатолий Грацкевич (ДЮСШ №1). А больше всех мячей забил Сергей Борик (КБЗ "Альбертин"). Лучшим игроком турнира признан Дмитрий Онанченко (ДЮСШ КБЗ "Альбертин").

**Александр ГУСАР**

НАША ІНТЭРВ'Ю

# «Сваіх пенсіянераў мы не крыўдзім»



**Калгас "1 Мая" — адна з самых буйных гаспадарак раёна. Якімі праблемамі і клопатамі сёння жывуць там сяляне? Пра гэта расказвае старшыня калгаса Антон Дабрэнка.**

— У нашым калгасе пяцьсот працуючых паляводаў, механізатараў і жывёлаводаў. На іх нашы спадзяванні і надзеі. У асноўным, гэта сумленныя людзі, якія з душой адносяцца да сваёй справы. І я, як кіраўнік, ганаруся імі. Асабліва хачу адзначыць механізатара Фёдара Дунько, які ўсё сваё жыццё працуе на трактары. І хоць цяпер ён пенсіянер, аднак не кожны малады механізатар можа з ім паспаборнічаць. Вельмі ўдзячны трактарысту Аляксандру Сідорыку, які добрасумленна выконвае свае абавязкі. Аляксей Утлік — таксама адзін з самых лепшых нашых механізатараў. Ён можа выконваць усе віды палявых работ з высокай якасцю.

Шмат у нас выдатных і жывёлаводаў, якія за сваю працу заслугоўваюць самых шчырых слоў удзячнасці. Гэта Сцепаніда Русак, Надзея Жукоўская, Святлана Брухавецкая і іншыя.

***— А ці многа моладзі застаецца ў калгасе?***

— З задавальненнем успамінаю часы, калі на вёсцы заставалася шмат хлопцаў і дзяўчат. Тады калгас меў большыя магчымасці для будаўніцтва жылля, што, бадай, і стрымлівала маладых людзей пакідаць родныя мясціны. Цяпер справа значна горшая. Хоць мы газіфікавалі вёскі, пабудавалі добры Дом культуры ў Сянькоўшчыне, але нізкія заробкі сталі прымушаць моладзь ехаць жыць у горад. Але больш за ўсё мяне хвалюе тое, што моладзь сама гаворыць пра непрыстыжную прафесію хлебароба.

***— Я даведаўся, што ў вашым калгасе налічваецца 600 пенсіянераў, якія ўжо не працуюць. Ці прыходзяць яны да вас са сваімі праблемамі?***

— Мы імкнемся сваіх калгаснікаў-пенсіянераў не крыўдзіць. Дапамагаем пасадзіць бульбу, нарыхтаваць сена. Усё гэта робім за кошт гаспадаркі. Больш таго, па льготных цэнах прадаем ім збожжа, муку, крупу, мёд. Бясплатна выдзяляем транспарт, каб прывесці паліва і для іншых патрэб.

***— Якія вашы бліжэйшыя планы?***

— Галоўная наша мэта — рост і пашырэнне вытворчасці жывёлагадоўчай прадукцыі і, у сувязі з чым запланаваны цэлы шэраг мерапрыемстваў. Маё галоўнае жаданне — каб нам, за нашу прадукцыю плацілі столькі, колькі яна каштуе. Гэта дазволіць вёсцы развівацца, бо тых сродкаў, якія мы маем, хапае толькі на тое, каб неяк існаваць, плаціць людзям заработную плату. А магчымасці купіць добрую тэхніку, зрабіць неабходнае пераабсталяванне вытворчых аб'ектаў мы пакуль што не маем.

**Гутарыў Валянцін ЧУРЫЛА**

## Именины ИЮЛЬ

| | ПРАВОСЛАВНЫЕ | КАТОЛИЧЕСКИЕ |
|---|---|---|
| **01** | Леонтий | Антон, Галина, Марьян |
| **02** | Иван, Иуда | Мария, Урбан |
| **03** | Афанасий, Глеб, Инна, Римма | Томаш |
| **04** | Терентий, Юлиан, Юлий | Елизавета |
| **05** | Зенон, Мефодий, Ульяна | Антон, Каролина |
| **06** | Агафья, Александр, Алексей, Андрей, Аркадий, Арсений, Тереза, Артемий, Борис, Василий, Гавриил, Георгий, Герман, Глеб, Даниил, Дмитрий, Денис, Ефим, Ефросиния, Илья, Иван, Кирилл, Константин, Кристина, Кузьма, Максим, Мария, Марфа, Михаил, Никита, Петр, Прохор, Роман, Святослав, Сергей, Степан, Ульяна, Федор, Федора | Доминик, Люция, |
| **07** | Антон, Иван, Яков | Бенедикт, Кирилл, Мефодий |
| **08** | Ефросиния, Петр | Евгений, Елизавета, Прокофий |
| **09** | Денис, Иван, Тихон | Вероника, Зенон |
| **10** | Георгий | Антон, Филипп |
| **11** | Герман, Иван, Павел, Сергей, Феодосия | Бенедикт, Ольга, Пелагея |
| **12** | Павел, Петр | Вероника, Брунон, Иван |
| **13** | Андрей, Варфоломей, Иван, Иуда, Матвей, Матфий, Петр, Симон, Фадей, Фома, Филипп, Яков | Андрей, Генрих, Эрнест |
| **14** | Ангелина, Кузьма, Петр | Камил |
| **15** | Ювеналий | Владимир |
| **16** | Александр, Анатолий, Василий, Иван, Константин, Марк, Филипп | Бенедикт, Евстафий, Мария |
| **17** | Андрей, Богдан, Ефим, Марфа, Федор | Алексей, Богдан, Ядвига |
| **18** | Анна, Афанасий, Варвара, Елизавета, Сергей | Камил, Симон |
| **19** | Антон, Валентин, Василий, Кирилл, Марфа, Ульяна | Винцент, Владислав |
| **20** | Герман, Евдокия, Ефросиния, Фома | Чеслав |
| **21** | Прокофий | Андрей, Виктор, Даниэль |
| **22** | Александр, Кирилл, Федор | Магдалена, Мария |
| **23** | Леонтий, Антон, Даниил, | Апполинарий, Бригида |
| **24** | Елена, Ольга | Кристина |
| **25** | Арсений, Гавриил, Иван, Мария, Михаил, Симон, Федор | Христофор, Якуб |
| **26** | Гавриил, Степан, Юлиан | Анна, Иоаким, Мирослава |
| **27** | Анисим, Степан | Наталия, Юлия |
| **28** | Василий, Владимир | Виктор, Иннокентий |
| **29** | Валентина, Павел, Юлия | Марта |
| **30** | Леонид, Маргарита, Марина | Людмила, Петр, Юлита |
| **31** | Иван | Игнатий, Любомир |

